АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 – 30 сакавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 60 рублёў
№ 12
(257)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 25 сакавіка | | Нядзеля, 26 сакавіка | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -2 – -3°C | -1°C | -2 – -6°C | 0°C |
| Удзень | +1 – +4°C | +7°C | +5 – +7°C | +10°C |

АСТРАВЕЦ

## Кадравыя змены

На мінулым тыдні замест Віталя Бандарыка начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкома прызначаны **Мікалай Жывушка**. Ён нарадзіўся і працаваў на Мастоўшчыне, адкуль нядаўна прыехаў у Астравец узначаліць мясцовую вертыкаль Адам Кавалька. Новы старшыня выканкома фарміруе сваю каманду.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Па вясне збожжа звычайна зялёнае

Дырэктар "Маладзечнагандлю" **Мікалай Віннікаў** упэўнены, што маладзечанцы хлебам пакуль забяспечаныя. Тым не менш, на камбінаце хлебапрадуктаў узніклі цяжкасці са збожжам.

Каб забяспечыць хлебазавод мукой, тут перамолваюць збожжа, за якое яшчэ не разлічыліся: не хапае "зялёненькіх". Дырэктар камбіната **Канстанцін Камінскі** гаворыць, што за тону пшаніцы трэба выкласці 125 долараў, а за тону жыта – 95.

Дарэчы, 70% звычайнай "цаглінкі" складае жытняя мука, 20% – пшанічная. Калі да 1994 года выпускалі каля 70 тон хлеба ў дзень, то цяпер – удвая менш.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

СМАРГОНЬ

## Прафсаюзы не абараняюць настаўнікаў

Своеасабліва пачалі рэагаваць настаўнікі раёна на затрымкі з выплатай заработнай платы (дагэтуль яны не атрымалі яшчэ лютаўскай зарплаты). 30 педагогаў Сольскай сярэдняй школы і 20 Крэўскай СШ падалі заявы на выхад з прафсаюза.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Астравецкія грамадзяне РБ

10 сакавіка ў райвыканком паступіла заява аб правядзенні 25 сакавіка пікета "Я – грамадзянін Рэспублікі Беларусь".

Раённая арганізацыя Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі (АГП) мяркуе прыцягнуць увагу грамадскасці да правоў чалавека ў нашай краіне. Месцам правядзення пікета плануецца Ленінская плошча – самы ажыўлены раён мястэчка, час правядзення – з 15 да 19 гадзін. Адказнасць за парадак і, адначасова, арганізацыю пікета бярэ на сябе член раённага аддзялення АГП **Іван Крук**.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Каровы шукаюць новыя пашы

Праграма азелянення горада на гэты год прынятая райвыканкомам. Толькі калі для жыхароў цэнтра горада гэтая работа будзе на радасць, то для насельнікаў паўночна–усходняй часткі горада, якія маюць кароў, яна выгады не прынясе.

З вясны будзе забаронены выпас жывёлы паблізу загараднага возера, таксама ля парку імя 40–годдзя Перамогі, размешчанага паблізу. Давядзецца шукаць іншыя пашы, што нязручна з–за іх аддаленасці ад горада.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

## У Дар'і Каўрус стагоддзе, як адзін дзень

Сто год у панядзелак споўнілася жыхарцы вёскі Чарэмшыцы **Дар'і Каўрус**. Самастойна хадзіць яна ўжо не можа і чуе блага, але ж памяць мае выдатную, пра сваё жыццё ўзгадае ўсё да драбніц: ***Как был Николашка–дурачок, была булка – пятачок. Как стал Ленин, Троцкий – нет и муки на клёцки.***

Ці не ўсе сто год Дар'я Філімонаўна пражыла ў Чарэмшыцах. Хоць адукацыі мае 1 клас, яшчэ да нядаўняга часу любіла чытаць газеты. Даглядае доўгажыхарку стрыечная ўнучка Ніна. Расказала, што ў ежы бабка Дар'я непераборлівая, асабліва любіць бліны. Гарбату не прызнае, лепш варэння з вадой разбоўтае. З таблетак давярае толькі анальгіну. Праўда, і хварэе вельмі рэдка.

Дар'я Каўрус стала дзесятым жыхаром Мядзельшчыны, якім за 100 год.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Лепшыя ў вобласці

Адной з лепшых у вобласці па выніках работы за мінулы год стала Маладзечанская грамадская арганізацыя абароны спажыўцоў (старшыня – **Уладзімір Клешч**).

Толькі за 2 месяцы гэтага года з дапамогай таварыства спажыўцам вернута 321 тысяча рублёў. Хаця зарплату за гэта ні старшыня, ні юрыст, які там працуе, не атрымліваюць.

*Аддзел інфармацыі.*

## Чарговы «летні» час

На перыяд **з 26 сакавіка па 29 кастрычніка 2000 года ў рэспубліцы ўстанаўліваецца "летні" час.** Стрэлкі гадзіннікаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь **у 2 гадзіны 26 сакавіка 2000 года пераводзяцца на 1 гадзіну наперад.**

АКЦЫІ

# За нацыянальны ўніверсітэт



Дзеля будучых пакаленняў.



Галасуюць маладыя.
ФОТА А. МАНЦЭВІЧА.

МАЛАДЗЕЧНА. 21 сакавіка ў гарадскім парку адбыўся дазволены мясцовымі ўладамі пікет у падтрымку стварэння Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

Пікет быў арганізаваны маладзечанцамі **Тадэвушам Шусціцкім** і **Яўгенам Бяляўскім**. Лозунгі "Беларускай мове – жыць!", "Жыве мова – жыве Беларусь!" рабілі рознае ўражанне на маладзечанцаў. Некаторыя прасіліся паставіць подпіс у абыход чаргі – спяшаліся, некаторыя адпускалі рэплікі накшталт: "Лучше бы работали, бездельники!".

Пікетчыкамі было сабрана 296 подпісаў у падтрымку утварэння Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта.

БНУ, як мы пісалі ўжо, павінен стаць класічным еўрапейскім універсітэтам. У якасці абавязковых дысцыплін у навучальныя праграмы ўвойдуць латынь, дзве жывыя замежныя мовы. БНУ стане ўзорам для рэформы ўсёй нацыянальнай вышэйшай адукацыі. Плануецца адкрыць прыродазнаўчы, гісторыка–лінгвістычны, юрыдычны, эканамічны, літаратурны і, магчыма, фізіка–матэматычны факультэты.

*Мікола ГАЙДУК.*



## Чытайце «РГ» у Internet

*Гэты нумар «РГ», як і папярэдні, вы можаце прачытаць у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by.*

*Навіны жыцця рэгіёна ў электроннай версіі газеты з'яўляюцца на суткі раней – у чацвер.*

*ГАНДАЛЬ*

## Прыватныя селядцы

ВІЛЕЙКА. Каля магазіна №56, што па вуліцы Чырвонаармейскай, адкрыўся спецыялізаваны ларок па продажы рыбы. Ён адразу набыў папулярнасць у пакупнікоў. Час ад часу тут нават утвараюцца чэргі.

– У мяне ёсць не адзін сакрэт, а нават тры, – гаворыць прадпрымальнік Вадзім Сівіцкі. – Каштуе мая рыба на 100–300 рублёў танней, чым у магазіне, бо я сам сабе забеспячэнец, грузчык, гандляр, бухгалтар і нават дырэктар. А зарплата патрэбная толькі аднаму. Вось кошт рыбы і не надта адрозніваецца ад аптовага. Ёсць халадзільнае абсталяванне, ды і за прадукцыяй езджу часта, таму рыба заўсёды свежая. І ветлівасць – нішто не даецца нам так лёгка...

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*АНТЫСАНІТАРЫЯ*

## Рэстаран і хлебазавод зачыненыя

ВІЛЕЙКА. Тры дні на Вілейшчыне працавала камісія ЦГіЭ Мінскай вобласці па праверцы санітарнага становішча прадпрыемстваў харчовай прамысловасці і грамадскага харчавання.

Выяўлены шэраг недахопаў: рэстаран "Вілія" – 25 год не рабілі капітальнага рамонту; дзіцячая малочная кухня гарадской бальніцы – рэгулярна падтопліваецца каналізацыйнымі водамі; цэх па выпуску мясных вырабаў у вёсцы Дзядзічы – памяшканне не адпавядае санітарным нормам; цэх безалкагольных напіткаў і цэх кандытарскіх вырабаў Ільянскага хлебазавода – дрэннае санітарнае становішча.

Усе згаданыя прадпрыемствы часова зачыненыя да ліквідавання выяўленых недахопаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*НОВАЎТВАРЭННІ*

## «Зеніт» мяркуе адкрыць супермаркет

ВІЛЕЙКА. У планах кіраўніцтва завода "Зеніт" – адкрыццё свайго супермаркета – Гандлёва–камерцыйнага цэнтра. Новы магазін плануецца адкрыць па вуліцы Чапаева, 60. Цяпер там месціцца Гандлёвы дом "Зеніт", гарантыйная майстэрня па рамонце фотаапаратаў, бібліятэка, станцыя юных тэхнікаў. Апошнія тры ўстановы будуць адселеныя ў падабраныя памяшканні, каб вызваліць дадатковую плошчу для гандлю.

Вядуцца аддзелачныя работы, закупляецца абсталяванне для адкрыцця на другім паверсе змяшанага аддзела. У перспектыве кіраўніцтва завода плануе заказаць праект новага супермаркета ў фірме "Еўрастыль" Маладзечна. Затым – паэтапная рэканструкцыя будынка: адкрыццё дзвюх гандлёвых залаў на першым і другім паверхах (мэбля, спорт, тавары відэ–, аўдыё–, фотаапаратура, адзенне, прадукты, іншае), невялікага кафэ з барнай стойкай, абменнага пункта (на апошні ёсць дагавор з Беларусбанкам).

Будзе абноўлены і фасад будынка, на якім размесціцца пластыкавая святлавая панель з выявай Гандлёва–камерцыйнага цэнтра.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*ПЕРАЎТВАРЭННІ*

## Бальніца вярнулася да ранейшых гаспадароў

СМАРГОНЬ. Пасля нядаўняга пераходу Крэўскай участковай бальніцы ў новы корпус былыя будынкі перайшлі да першапачатковага ўладальніка іх (з 1921 года) – мясцовай каталіцкай парафіі.

Аднак за гэты доўгі час памяшканні паднасіліся. Астаткавы кошт складае 219 мільёнаў рублёў. Але вернікі не губляюць надзею давесці іх да нармальнага стану і выкарыстоўваць па прызначэнні.

*Павел МАКЛЮК.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 16 сакавіка | 23 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 424,00 руб. | 429,00 руб. |
| Марка Герм. | 209,90 руб. | 210,82 руб. |
| Літ | 106,00 руб. | 107,22 руб. |
| Рас. руб. | 14,89 руб. | 15,13 руб. |
| Злоты | 103,60 руб. | 105,97 руб. |
| ЕЎРА | 410,54 руб. | 412,33 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 890 – 910 руб. | 900 – 930 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 15.03 | 22.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | **1050** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3430 | **4410** |
| Сасіскі | 1 кг | 933 | **933** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 670 | **720** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 560 | **570** |
| Цукар | 1 кг | 255 | **258** |
| Алей | 1 л | 640 | **640** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 360 | **360** |
| Маянэз | 250 г | 160 | **150** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | **300** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | **200** |
| Лімоны | 1 кг | 920 | **960** |
| Апельсіны | 1 кг | 620 | **630** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 170 | **160** |
| Морква | 1 кг | 240 | **280** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | **500** |
| Масла | 1 кг | 1200 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 550 | **500** |
| Малако | 1,5 л | 220 | **250** |
| Бульба | вял.вядро | 800 | **800** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | **450** |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | **400** |
| Капуста | 1 кг | 130 | **150** |

*РЭКЛАМА*

# «ПИРРС–1000М» на варце вашага пад'езда

МАЛАДЗЕЧНА. Доўгі час жыхары дома па Крынічнай, 31 не маглі пазбавіцца ад рознага роду няпрошаных наведвальнікаў. Пастаянна ў пад'ездах тусаваліся па вечарах кампаніі нападпітку, падлеткі гарланілі песні, з паштовых скрыняў прападалі газеты, пастаянна выкручвалі лямпачкі. Спісаныя сцены, засмечаныя пад'езды, раскамплектаваныя ліфты – знаёмая карціна, ці не так?

Падобнае працягвалася да таго часу, пакуль жыхары дома не ўстанавілі ў сваіх пад'ездах ахоўна–перагаворныя ўстройствы (АПУ) "ПИРРС–1000М".

У Маладзечне ёсць прадпрыемства "Спектр–Сервіс", якое займаецца ўстаноўкай і мантажом АПУ "ПИРРС–1000М" з устаноўкай (або без) металічных дзвярэй на ўваход пад'езда з колькасцю кватэр ад 1 да 160. Гэтыя ўстройствы рознай складанасці і камплектацыі, арыенціровачныя выдаткі адной кватэры складуць ад 10 да 45 тысяч рублёў, у залежнасці ад колькасці кватэр у пад'ездзе і выбару варыянта АПУ.

Гаворыць дырэктар гэтага прадпрыемства **Аляксандр Цімафеенка**:

– Усе мадыфікацыі АПУ "ПИРРС–1000М" сертыфікаваныя і рэкамендаваныя да выкарыстання МУС РБ. Прычым, гэта адзіны выраб у Беларусі, які мае ліцэнзію і сертыфікат РБ у гэтай галіне. Асноўныя вартасці – сучасная, надзейная мікрапрацэсарная схематэхніка, антывандальнае выкананне блокаў, падсвятленне клавіятуры, гукавое суправаджэнне адчынення дзвярэй і няправільнага набору нумара абанента, супертрывалы электрамеханічны замок, адчыненне дзвярэй электронным ключом або чатырохзначным лічбавым кодам. Усе мадыфікацыі адпрацоўваліся на працягу 5 год з мэтай павышэння эксплуатацыйнай надзейнасці, механічнай трываласці і даўгавечнасці. 60000 сем'яў у РБ і краінах СНД карыстаюцца аховай АПУ "ПИРРС–1000М". Напэўна, гэта самая прымяняльная і адпрацаваная сістэма падобных устройстваў.

Вядома, найбольш прымяняльная гэтая сістэма ў Мінску і з'яўляецца асноўнай ва УКБ Мінгарвыканкома. У прыватнасці, устаноўленая ў дамах "Алімпійскай вёскі" на праспекце Машэрава.

Распрацавана 5 асноўных мадыфікацый АПУ "ПИРРС–1000М". Яны адрозніваюцца складам, камплектацыяй і, натуральна, цаной.

Самая сучасная мадэль "ПИРРС–1000М" поўная сістэма складаецца з вызыўнога ўстройства, блока ўпраўлення, электрамеханічнага замка, абаненцкіх устройстваў (танафонаў) для дуплекснай двухбаковай сувязі паміж жыхарамі і наведвальнікамі з магчымасцю дыстанцыйнага адкрывання замка ўваходных дзвярэй для колькасці кватэр ад 15 да 111 і па 3 электронныя ключы на кожную кватэру.

Верагодна, адна з галоўных пераваг гэтых сістэм – магчымасць іх даўкамплектавання ў будучым па заяўках жыхароў. Бо выпрабляюцца яны ў нашай рэспубліцы, хаця і з імпартных камплектуючых, г. зн., рамонт і абслугоўванне гарантаваныя. Тэрмін гарантыйнага абслугоўвання – 1 год.

А вось што гаворыць начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Маскоўскага РАУС Мінска **Сяргей Мацко**:

– Гэтая сістэма здольная рэальна абараніць жыхароў пад'езда ад рознага роду цёмных асоб. Не прыпомню выпадку, каб злодзеі праніклі ў пад'езд, які абсталяваны АПУ "ПИРРС–1000М". Ліцэнзія №708 Мін. прам. РБ ад 13.02.1998 г. да 13.02.2003 г.

**Адрас ВП "Спектр–Сервіс": Маладзечна, вуліца Машэрава, 10.**

**Тэл./факс 51687.**

| *Колькасць кватэр* | *Прыкладны кошт абсталявання і мантажу (тыс. руб.)* | *Кошт з 1 кватэры (тыс. руб.)* | *Прыкладны кошт мантажу (тыс. руб.)* | *Кошт з 1 кватэры з устаноўкай дзвярэй (тыс. руб.)* |
|---|---|---|---|---|
| Варыянт I – поўная сістэма; | | | | |
| **15** | **508** | **33** | **676** | **45** |
| **40** | **930** | **23** | **1102** | **27,5** |
| Варыянт II – поўная сістэма без электронных ключоў; | | | | |
| Варыянт III – без танафонаў з ключамі; | | | | |
| Варыянт IV – без танафонаў і без ключоў: | | | | |
| **15** | **438-260** | **30-18** | **615-435** | **41-30** |
| **40** | **780-260** | **20-7** | **955-435** | **24-11** |

Варыянт V – вызыўное замковае ўстройства "ПИРРС ВЗУ–20" складаецца з кнопачнага вызыўнога ўстройства, блока ўпраўлення, замковага ўстройства і абаненцкіх устройстваў (танафонаў) па колькасці кватэр ад 1 да 20.

Прыкладны кошт мантажу "ПИРРС ВЗУ–20" з устаноўкай (і без) металічных дзвярэй:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **15** | **290** | **19,3** | **465** | **31** |
| **20** | **320** | **15** | **475** | **28** |

Варыянт VI – спрошчаная сістэма кодавага ўстройства ўпраўлення замком (КУУЗ–І) складаецца толькі з замка электрамеханічнага або электрамагнітнага, блока сілкавання і кодавага ўстройства. Можа быць выкарыстаная на дзвярах пад'езда без абмежавання колькасці кватэр, на дзвярах тамбураў лесвічных пляцовак і на дзвярах службовых памяшканняў.

Арыенціровачны кошт абсталявання без устаноўкі – **75000**.

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

## Чарговая міна ў райвыканкоме

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні зноў паступіла тэлефоннае паведамленне ад невядомага, што будынак Смаргонскага райвыканкома замініраваны. Званок быў зроблены ў Гродне дзяжурнаму ДАІ УУС. Пошукамі зламысніка займаецца гродзенская міліцыя.

Смаргонскія міліцыянеры зрабілі ўсё, што патрэбна. Будынак ачапілі, выклікалі з абласнога цэнтра мінёраў, аднак выбуховага прыстасавання не знайшлі. Паведамленне паступіла ў Смаргонь у 6 гадзін 40 хвілін, а ў 13 гадзін 40 хвілін праверка была сконачаная.

Пачынаюць прывыкаць да падобных выпадкаў і работнікі выканкома: з лютага мінулага года гэта ўжо трэці такі званок. Усе работнікі разышліся па бліжэйшых установах і арганізацыях, працягвалі працаваць. Так што горад і раён не заставаліся без улады. А пасля 14 гадзін усе былі на сваіх месцах, у 14 гадзін 30 хвілін прайшло чарговае пасяджэнне гарвыканкома.

*Мікіта ЛІСТАПАД.*

## Зніклі два новенькія аўтамабілі

ВІЛЕЙКА. Тыдзень таму, каля чатырох раніцы, з гаражнага кааператыва №4 выкрадзеныя два аўтамабілі ВАЗ 2110 1999 года выпуску.

Ахоўнік базы гархарчгандлю, якая знаходзіцца непадалёку, чуў работу рухавікоў. У першы гараж злодзеі праніклі праз дах (узарвалі шыфер), у другі трапілі, калі зламалі замок.

Відавочна што кражу невядомыя спланавалі наперад. Хутчэй за ўсё, дала пра сябе знаць "банда аўтамабільных злодзеяў", якая ўжо не раз "працавала" у Вілейцы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*МЕДЫЦЫНА*

# Ёсць магчымасць прыйсці ў XXI стагоддзе без туберкулёзу



*Урач–рэнтгенолаг Уладзімір Кошалеў.*
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

МАЛАДЗЕЧНА. Асноўным метадам актыўнага выяўлення захворванняў органаў грудной поласці з'яўляецца флюараграфія. Калі параўнаць паказчыкі выяўляльнасці паталогіі органаў дыхання з паказчыкамі радыяцыйнай небяспекі рэнтгеналагічнага абследавання, то дыягнастычны эфект флюараграфіі значна пераўзыходзіць магчымую рызыку радыяцыйнага ўздзеяння, выкліканага рэнтгенаўскім выпраменьваннем.

Аднак пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС надзённай зрабілася праблема максімальнага зніжэння прамянёвай нагрузкі на пацыентаў пры абследаванні. Яна паспяхова вырашаная нашымі вучонымі: створаная камп'ютэрная сістэма рэнтгеналагічнага абследавання "Пульмаэкспрэс", якая са студзеня працуе ў Маладзечне. Па сведчанні загадчыка рэнтгеналагічнага аддзялення **Аляксандра Лапаціна**, гэтая унікальная сістэма камп'ютэрнай рэнтгенаграфіі, якая атрымала прызнанне ў Аўстрыі, Францыі, Аўстраліі і іншых краінах, мае шэраг пераваг.

Урач–рэнтгенолаг **Уладзімір Кошалеў** гаворыць, што, па–першае, "Пульмаэкспрэс" зніжае прамянёвую нагрузку на пацыента ў 250 разоў у параўнанні з флюараграфіяй, што забяспечвае павышаную бяспеку абследавання для пацыентаў і медыцынскага персаналу.

Па–другое, камп'ютэрная бясплёначная тэхналогія атрымання і захоўвання рэнтгенаўскіх выяў дазваляе выкарыстоўваць сучасныя метады лічбавай апрацоўкі, якія павышаюць магчымасці дыягностыкі.

Па–трэцяе, з'яўляецца магчымасць стварэння адзінай інфармацыйнай сістэмы лячэбных устаноў.

У горадзе эфектыўную работу "Пульмаэкспрэса" забяспечвае калектыў кваліфікаваных медыцынскіх работнікаў Маладзечанскага гарадскога супрацьтуберкулёзнага дыспансера, якія прайшлі падрыхтоўку ў вядучых клініках краіны.

**Даведкі пра работу "Пульмаэкспрэса" можна атрымаць у дыспансерным аддзяленні Маладзечанскага гарадскога супрацьтуберкулёзнага дыспансера або па тэл. у Маладзечне 79014.**

*Аддзел інфармацыі.*

